

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша слова.pdf



**Першы год выдання** **№ 28 13 ліпеня 2022 г.**

## Па-беларуску сардэчна і гасцінна

***Александрыя сабрала на святочнае Купалле тысячы гасцей***

9 і 10 ліпеня ўся ўвага была прыкавана да маленькага аграгамястэчка Александрыя ў Шклоўскім раёне. У кожным куточку купальскай пляцоўкі адбывалася нешта цікавае і ўнікальнае. Александрыя сабрала на святочнае Купалле тысячы гасцей.






Грыміць купальскі кірмаш, у паветры лунаюць смачныя пахі, адусюль нясуцца спевы ў народных рытмах. Трынаццаты па ўліку фестываль "Александрыя збірае сяброў" па-беларуску сардэчна і гасцінна вітаў усіх, хто пажадаў да яго далучыцца.

*(Працяг на ст. 2.)*

## Рэспубліканскае свята паэзіі прайшло на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы

9 ліпеня адбылося рэспубліканскае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы.







Прысвечана мерапрыемства 140-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. Арганізавалі свята для прыхільнікаў творчасці паэта Саюз пісьменнікаў Беларусі, Менаблвыканкам і Маладзечанскі райвыканкам.

***Фота Аксаны Манчук.***





# Па-беларуску сардэчна і гасцінна

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)

На выставе-кірмашы сабралася каля 500 народных умельцаў, у тым ліку звыш 80 з Таджыкістана і 13 рэгіёнаў Расійскай Федэрацыі - Дагестана, Сахі (Якуція), Ханты-Мансійскай аўтаноміі Югра, Бранска, Курска, Ленінградскай, Ніжагародскай, Новасібірскай, Арэнбургскай, Пскоўскай, Разанскай, Саратаўскай, Смаленскай і іншых абласцей.

Каларытныя падворкі, ажыўшыя персанажы гісторыі, прэзентацыі лепшых вытворцаў Беларусі.

На фестывальнай лугавіне сабраліся, як той казаў, усе браты 12 месяцаў. Менавіта такія ўражанні выклікае выстава-кірмаш "Кола жыцця", якая аформлена ў адпаведнасці са святамі беларускага народнага календара. На ёй Менск адлюстраваў асаблівасці зімовых свят, Берасце і Гародня - веснавых, Магілёў - летніх, Гомель і Віцебск - восеньскіх. Кожны рэгіён прадстаўляе тэматычныя пляцоўкі з творчымі праграмамі-прэзентацыямі.

Адна з самых відовішчных падзей александрыйскага Купалля - фінал рэспубліканскага сямейнага сельскагаспадарчага праекта "Уладар вёскі - 2022". За перамогу ў конкурсе змагаліся шэсць маладых сем'яў - Дзмітрыя і Вольгі Богуш з вёскі Зарэчка Драгічынскага раёна Берасцейскай вобласці, Дзмітрыя і Вікторыі Дундзер з аграгарадка Обруб Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці, Дзяніса і Юліі Веракса з вёскі Брыскавічы Мазырскага раёна Гомельскай вобласці, Паўла і Людмілы Занеўскіх з аграгарадка Гудзевічы Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласці, Дзмітрыя і Юліі Татарэнкі з аграгарадка Язёры Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці, Іллі і Таццяны Тарасевіч з аграгарадка Лошніца Барысаўскага раёна Менскай вобласці.

Вельмі шматлюдна каля палаткі Саюза пісьменнікаў Беларусі. У наведвальнікаў ёсць магчымасць сустрэцца з вядомымі пісьменнікамі і паэтамі Алесем Карлюкевічам, Таццянай Жылінскай, Жаннай Міус, Алесем Казекам, Аленай Стэльмах.

- Прыгожае народнае свята, - адзначыў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, дырэктар - галоўны рэдактар Выдавецкага дома "Звязда" Алесь Карлюкевіч. - Прыемна, што шмат людзей цікавіцца кнігамі ў такі вясёлы час.




На палічках шырока прадстаўлена літаратура як Выдавецкага дома "Звязда", так і іншых вядучых беларускіх выдавецтваў. А на дзіцячыя кніжкі Жанны Міус неверагодны попыт. Аўтарка ледзь паспявае ставіць аўтографы.

*“Шаноўныя сябры, дорогие друзья, сардэчна запрашаю вас усіх і тых, хто нас сёння бачыць па тэлебачанні, на цудоўную александрыйскую зямлю.*

*Вельмі рады таму, што з году ў год у гэтыя сакральныя для нашага народа вечары я вітаю тут усё больш і больш нашых гасцей.*

*Па-першае, сапраўдных беларусаў - разумных, добрых, сумленных, якія разам, як у нас кажуць, талакой, могуць і працаваць, і святкаваць.*

*Па-другое, шчырых сяброў, што цікавяцца нашай найбагацейшай народнай культурай.*

*Але, каб яе зразумець, гэту культуру, трэба разам з намі дакрануцца да старажытных беларускіх традыцый, убачыць прыгажосць купальскай ночы, надыхацца водарам квітнеючых летніх палёў. Адчуць, як недзе ў глыбіні душы чароўнай папараць-кветкай прарастаюць любоў і асаблівая павага да беларускай зямлі і беларускага народа.*

*Кожны, хто хоць раз пабываў у нашай краіне, пазнаёміўся з людзьмі, дакладна ведае: мы, беларусы, мудрыя, годныя і вольныя людзі. Мы шануем сваіх продкаў, добра ведаем сваіх герояў. З адкрытай душой сустракаем тых, хто прыйшоў з мірам. Заўсёды гатовы падзяліцца кавалкам хлеба і даць прытулак тым, хто страціў сёння ўсё.*

*Мы ганарымся сваёй гісторыяй і сваёй зямлёй. І ні пры якіх абставінах не адмовімся ад гэтай зямлі. Але мы ніколі не дазволім дыктаваць нам, як жыць і што рабіць.*

*Я добра ведаю, сапраўдны беларус - той, хто мае тут дом і заўжды будзе яго абараняць. Калі спатрэбіцца, то і са зброяй у руках. Таму што гэты дом у нас - адзіны.*

*Мы адказныя за яго. І перад тымі, хто быў на гэтай зямлі да нас, і перад тымі, хто прыйдзе пасля нас. Нездарма казалі нашы продкі: "Свая хатка - родная матка, а чужая - мачаха"...* - звярнуўся да ўдзельнікаў свята Прэзідэнт краіны.

Апагеем свята стаў вялікі гала-канцэрт- музычная камедыя "Ёсць на што паглядзець!" У аснове канцэрта - лірычная музычная камедыя на тэму пошуку талентаў на свята ў Александрыі.

***Нэлі ЗІГУЛЯ.***
***Фота аўтара і Таццяны ПАДЛІПСКАЙ.***





# Вянкі, карагод вакол вогнішча і "Свята"

## *Купалле-2022 у Лідзе*

Купалле - старажытнае славянскае свята, прысвечанае летняму сонцастаянню. У часы паганства людзі ў гэты дзень дзякавалі стыхіі - Агню, Вадзе і Зямлі, а пасля прыняцця хрысціянства свята прымеркавалі да дня нараджэння Іяана Хрысціцеля. З Купаллем звязана мноства магічных традыцый і абрадаў. У народзе хадзілі павер'і, што ў ноч Купалля рэкі свецяцца, а ў абліччы русалак у іх купаюцца душы памерлых. У купальскую ноч беларусы замаўлялі траву і вянкі, каб тыя дапамаглі вырашыць праблемы з каханнем, грашыма і прынеслі ў хату поспех. Сёння свята з маштабам адзначаецца ва ўсіх беларускіх гарадах на берагах рэк і азёр, а больш за ўсё гасцей збіраецца ў Александрыі.

Купалле - адно з самых любімых свят і ў Лідзе. Адмысловую прыгажосць і каларыт яно набыло з тых часоў, як у год рэспубліканскіх дажынак у цэнтры горада, каля замка, з'явілася возера. А пачынальна з леташняга года, купальскай традыцыяй стала ў сценах замка праводзіць яркія музычныя шоў з удзелам лепшых артыстаў. Летась мы адзначылі Купалле з Ірынай Дарафеевай, а сёлета гаспадарамі сцэны сталі ўдзельнікі "Х-фактар. Беларусь".

Старажытнае месца, старажытнае свята... Што тут яшчэ сказаць?.. Трэба было проста быць тут і цяпер!



Як толькі стала шарэць, да замка пацягнулася людская рака, і каля яго сцен літаральна не было дзе яблыку ўпасці. І дзеці, і дарослыя - прыходзілі цэлымі сем'ямі. Эмоцый на тварах не схаваць: многія ўражаны: нехта - вясёлымі выступамі лідскіх артыстаў, нехта - тым, як традыцыйныя абрады можна маляўніча, арыгінальна абыграць. А ў арганізатараў, прызнацца, гэта вельмі добра атрымліваецца.

Адзін з галоўных у гэты дзень атрыбутаў - вянок з кветак і травы. Лідскія майстры і майстрыхі плялі іх прама на свяце. Бралі рамонкі - знак чысціні і нявіннасці, васількі - традыцыйная для Беларусі кветка. Часам упляталі зёлкавыя культуры, якія сімвалізуюць дастатак. А яшчэ - лісце папараці. Лічыцца, каб вянок паплыў і спраўдзілася запаветнае жаданне, плесці яго трэба, укладваючы душу.



Цікаўлюся ў лідзян меркаваннямі пра ліпеньскае свята.

- Купалле я памятаю яшчэ з дзяцінства, - кажа жыхарак г. Ліды Вольга. - У нас у вёсцы свята праводзілася на беразе рэчкі. Апоўначы ішлі туды галоўным чынам дарослыя, але і нам, дзецям, часам дазвалялася. Распальвалі вогнішча, вадзілі карагоды. Выбіралі самую прыгожую дзяўчыну вёскі - Купалінку. На лодцы па рацэ прыплывалі "нячысцікі", якіх пазней шчасліва праганялі. Было вельмі весела. І яшчэ памятаю: мая бабуля казала, калі купацца ў купальскую ноч, то будзеш увесь год здаровым. Я і цяпер так раблю, калі бываю на Купалле ў роднай вёсцы.

- На свята мы прыехалі ўдваіх з сяброўкай, маёй госцяй з Расіі, - распавядае Іна Кушнер. - Яна ніколі не бачыла Купалля. Свята вельмі прыгожае - мы ўражаны! А вянкі з рамонкаў і васількоў мы вырашылі захаваць - як памяць пра свята. Думаю, нават узімку нас будуць саграваць цёплыя ўспаміны.

Праграма была падрыхтавана яркая і насычаная: народныя гульні-забавы, незвычайнае тэатралізаванае прадстаўленне, квэсты, пошук міфічнай папараць-кветкі. На пляцоўцы працавала шмат актыўнасцяў як для дарослых, так і для дзяцей.

"Ой рана на Йвана" - з першымі гукамі знакамітай







купальскай песні госці пацягнуліся бліжэй да сцэны, гаспадаром якой стаў беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята" пад кіраўніцтвам нашага знакамітага земляка Вячаслава Статкевіча. Артыстам удалося заваяваць увагу ўсёй публікі ад малога да вялікага! Сярод гледачоў было нямала такіх, хто не мог утрымацца і пускаўся ў скокі. Вось ужо сапраўды - свята.

Калі над горадам згусцела змярканне і неба афарбавалася ў пунсовы захад, ніхто не збіраўся сыходзіць. Юныя купалінкі спусціліся са сцэны і чарадой ішлі да возера, каб пусціць на ваду (на волю лёсу) свае вянкі. За іхнім прыкладам рушылі ўслед многія лідскія дзяўчаты. Верылі: куды паплыве вянок - адтуль і рыхтуйся сустрэць другую палоўку, а не паплыве - вяселле яшчэ не хутка.



А праз некалькі хвілін каля возера загарэлася вялікае купальскае вогнішча. Дзеці, моладзь і дарослыя ўзяліся за рукі і ўсталі ў дружны карагод: кружыліся, спявалі і весяліліся.



Паводле звычаю, на Купалле трэба сустракаць узыход сонца. Нібы яно гуляе, пераліваецца рознымі кветкамі. Ну а дачакацца ўзыходу, можна было, працягнуўшы свята ўжо ў сценах замка, на феерычным шоў удзельнікаў праекта "Х-фактар. Беларусь", у тым ліку яго пераможца, нашага таленавітага земляка Андрэя Панісава.

***Вольга Яхантава,***
***lidanews.by.***

# Купалаў фэст у Радашковічах




10 ліпеня парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Радашковічах правяла Купалаў фэст для ўсіх, хто любіць і шануе народнага паэта Беларусі Янку Купалу.

Сёлетні фэст праходзіў у 140-ю гадавіну з дня нараджэння славутага беларускага песняра.

Ян Луцэвіч, вядомы ўсім як Янка Купала, нарадзіўся ў 1882 годзе ў Вязынцы, быў ахрышчаны ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы старадаўняга мястэчка Радашковічы і атрымаў імя ў гонар Хрыстовага Папярэдніка Яна Хрысціцеля.

Сёлетні Купалаў фэст у Радашковічах складаўся з трох частак. Распачаўся ён традыцыйна святой Імшой, пасля якой адбылася музычная праграма і літаратурная імпрэза. Падчас фэсту ў радашковіцкім касцёле гучаў арган XIX стагоддзя, які аднаўляецца з 2018 года. Аднаўленне гістарычнага інструмента адбываецца па ініцыятыве пробашча парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Радашковічах ксяндза каноніка Юрыя Быкава. Рэстаўруе інструмент арганны майстар Маскоўскай філармоніі Дзмітрый Лотаў. У аргане ўжо гучаць 24 галасы.

Важнай падзеяй сёлетняга фэсту стала дабраслаўленне аднoўленай мемарыяльнай кампазіцыі, якая нагадвае пра тое, што менавіта ў гэтым касцёле 12 ліпеня 1882 года быў ахрышчаны Ян Луцэвіч - паэт Янка Купала.

Аўтар кампазіцыі скульптар Сяргей Гумілеўскі, якому радашковіцкія вернікі дапамаглі ў яе мантажы ў парафіяльнай святыні.

У межах фэсту адбылося выступленне артысткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі Тацццяны Шумаковай. Яна выканала на цымбалах такія знакамітыя творы, як "Купалінка", "Развітанне з Радзімай", "Лявоніха" і іншыя.

Падчас літаратурнай часткі прагучалі творы Янкі Купалы ў выкананні творчага аб'яднання "Батлейка" пад кіраўніцтвам Наталлі Маскалевіч з Маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік".

***Алеся Давідовіч.***
*Catholic.by*



# Янка Купала - пясняр беларускай душы

Янка Купала - сапраўдны класік сусветнай і беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў беларускай літаратурнай мовы. Выступаў як паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. Сярод яго герояў шмат людзей надзвычайнага лёсу, а тэму сялянскага жыцця беларускі пясняр узняў да філасофскага абагульнення. Ён падняў беларускае мастацкае слова на небывалую вышыню, яго творчасць параўноўваюць з лепшымі ўзорамі сусветнай літаратуры, яно ўяўляе сабой сапраўдную энцыклапедыю жыцця беларускага народа. Ад першага да апошняга верша яно належыць Беларусі і яе нацыянальнай культуры.

ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" адзначыла 140-годдзе паэта яскравымі і запамінальнымі мерапрыемствамі. Differently Рознабагацце тэматык і форм мерапрыемстваў, якія праводзілі бібліятэкары, характарызуе і Янку Купалу як шматгранную асобу. Гасцей чакалі літаратурныя старонкі і гадзіны, гучныя чытанні, гасцёўні і літаратурна-музычныя вечары, віртуальныя падарожжы і імпрэзы.

Распачала свае віншаванні Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы яшчэ 5 ліпеня, калі шырока адзначала 140-годдзе з дня нараджэння славутага сына беларускай зямлі - Янкі Купалы, чыё імя яна носіць. Да свята была падрыхтавана музычна-паэтычная гасцёўня "Непаўторны талент беларускай зямлі". Госці здзейснілі віртуальную вандроўку па родных мясцінах паэта, успомнілі купальскія традыцыі нашых продкаў, пазнаёміліся з казачнай легендай нараджэння Янкі Купалы, даведаліся пра яго нялёгкі жыццёвы шлях і багатую літаратурную творчасць. Госці пазнаёміліся з кніжна-ілюстрацыйнай экспазіцыяй "У храме слова Купалы і Коласа" на абанеменце, пабывалі ў чытальнай зале і пазнаёміліся з абноўленай кніжнай выставай "Волат слова народнага". На працягу дня гучалі вершы паэта, госці слухалі песні на яго словы, аповед пра сустрэчу Купалы з лідзянамі, прымалі ўдзел у літаратурнай віктарыне "Па кніжных старонках". Усе змаглі пераканацца, што Янка Купала пакінуў нам вялікую спадчыну.



Паэзія Янкі Купалы - гэта найперш паэзія пачуццяў, эмоцый, глыбокіх роздумаў і перажыванняў. У розны час, у залежнасці ад абставін, лірык станавіўся то паэтам-грамадзянінам, то прарокам, то філосафам. Як ніхто з беларускіх паэтаў Купала садзейнічаў фарміраванню тэхнікі вершаскладання, прыўнёс свае рытмы, інтанацыі, вызначыў найбольш перспектыўныя шляхі, па якіх у наш час развіваецца беларуская паэзія.



У ходзе юбілейнага вечара "Гучыць, ляціць Купалаў голас, над гэтай вечнаю зямлёй", які прайшоў у філіяле "Інтэграваная бібліятэка аграгарадка Бердаўка" прысутныя пазнаёміліся з біяграфіяй народнага паэта Беларусі. Пачуццёва і пранікнёна прагучалі з вуснаў вучняў яго выдатныя вершы. Да мерапрыемства была аформлена выстава "…Жыве неўміручы Купала".



7 ліпеня споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. Таму не выпадкова ў гэты дзень у філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 1" ладзіліся гучныя чытанні "Ляціць, гучыць Купалаў голас", удзельнікамі якіх сталі вучні 8-х-9-х класаў ДУА "СШ № 6 г. Ліды". Падчас правядзення мерапрыемства вядоўца распявала аб тым, што на золку XX стагоддзя



на Беларусі заззяў вясёлкай цудоўны самародак, славуты сын нашай Айчыны, класік нацыянальнай літаратуры - Янка Купала. Дзеці зачытвалі ўрыўкі з п'есаў "Паўлінка", "Магіла льва", прынялі актыўны ўдзел у віктарыне "Жыццё і творчасць паэта", наведалі памятныя мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Янкі Купалы, падчас віртуальнага літаратурнага падарожжа, праслухалі песні на вершы паэта ў выкананні ВІА "Песняры".



У дзень нараджэння Янкі Купалы ў філіяле "Бярозаўская гарадская бібліятэка" было арганізавана віртуальнае падарожжа "Запрашаем наведаць Купалаўскія месцы". Удзельнікі маршруту дакрануліся да часцінкі гісторыі, прайшліся сцяжынкамі, звязанымі з жыццём і творчасцю выдатнага беларускага паэта. Увазе прысутных быў прадстаўлены буктрэйлер "Раскіданае гняздо" да аднайменнай п'есе аўтара, praведзена віктарына па творчым шляху Янкі Купалы.




Тым жа днём філіял "Інтэграваная бібліятэка аграгарадка Дварышча" ладзіў літаратурную імпрэзу "Спадчыне жыць і квітнець". Прысутныя "прайшліся" сцежкамі песняра, пазнаёміліся з яго дзяцінствам, адказалі на пытанні віктарыны "Ці ведаеце вы творы Янкі Купалы?" і пазнаёміліся з выставай "Твой пясняр, Беларусь!". На працягу імпрэзы вершы чыталі Любоў Ліхарад, Дар'я Кароль і аматар беларускай літаратуры Людміла Канстанцінаўна Белан.



На літаратурную гадзіну "З родным словам ды і з беларускай душою" завіталі наведвальнікі прышкольнага лагера ДУА "СШ № 8 г. Ліды". Бібліятэкары філіяла "Лідская гарадская бібліятэка № 2" нагадалі пра галоўныя факты з жыццёвага і творчага шляху песняра, які стаў прыкладам бескарыснага служэння Айчыне. Падарожжа пачалося з Вязынкі - "калыскі" паэта. Гучалі вершы ў выкананні дзяцей, гучалі творы Купалы, пакладзеныя на музыку: "Песня пра долю", "Явар і каліна", "Спадчына". Засяродзілі ўвагу на паэтычных, драматычных, публіцыстычных творах народнага мысляра. А таксама расказалі аб помніках, якія стаяць у Маскве, Амерыцы, Кітаі, зазірнулі ў музей у Акопах.



З нагоды 140-гадовага юбілею народнага паэта Беларусі Янкі Купалы філіял "Лідская гарадская бібліятэка






№ 3" запрасіў чытачоў на літаратурную старонку "Нам засталася Спадчына". Падчас мерапрыемства ўдзельнікі даведаліся цікавыя звесткі з жыцця і творчасці паэта, успомнілі яго знакамітыя творы, здзейснілі віртуальнае падарожжа па Купалаўскім мясцінам, паўдзельнічалі ў віктарыне. Чытанне ўрыўкаў з твораў, размова аб літаратурных героях узмацнілі цікавасць дзяцей да творчасці беларускага класіка.

З мэтай прывіцця глыбокай павагі да нацыянальнай спадчыны, традыцый, звычаяў, культуры беларускага народа філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 4" гасцінна расчыніў свае дзверы для правядзення літаратурнай гасцёўні "Сучаснік назаўжды - Купала", прымеркаванай да 140-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы. У гэты дзень у бібліятэцы гучалі фрагменты з песень на словы Я. Купалы ў выкананні ансамбля "Песняры", дэманстраваўся відэафільм "Запрашаем да Купалы". Кніжная выстава "Песняры роднай зямлі" пазнаёміла з творчасцю знакамітых беларускіх паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гучала цудоўная беларуская мова, прысутныя з захапленнем чыталі вершы Янкі Купалы, удзельнічалі ў інсцэніроўках. А напрыканцы ўдзельнікі паэтычнай гасцёўні паглядзелі сюжэты і паслухалі песні, пакладзеныя на вершы славутага песняра, у выкананні беларускіх спевакоў.



У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка імя В. Таўлая" была праведзена літаратурна-музычная кампазіцыя "Без кахання шчасця, долі няма на зямлі". Удзельнікі



ўспомнілі змест найбольш знакамітых драматычных твораў Купалы ("Паўлінка", "Раскіданае гняздо", "Тутэйшыя"), якія былі пастаўлены на сцэне тэатра і з'яўляюцца выдатным адлюстраваннем жыцця беларускага народа і яго нацыянальнага каларыту. Таксама прысутныя з цікавасцю пазнаёміліся з кнігамі, прадстаўленымі на выставе "І не змоўкнуць ніколі ў свеце Купалавы словы".

Ушанаваць памяць беларускага песняра запрасіў філіял "Інтэграваная бібліятэка аграгарадка Тарнова" падчас літаратурнай гадзіны "Сучаснік назаўжды - Купала". Бібліятэкар вяла аповед пра жыццёвы шлях паэта, падрабязна расказала пра яго творчасць. Прысутныя пазнаёміліся з творамі аб жыцці паэта, успамінамі і матэрыяламі з перыядычных выданняў. Падчас аповяда гучалі вершы пісьменніка ў выкананні навучэнцаў.



Літаратурна-мастацкая спадчына Янкі Купалы - вялікае нацыянальнае багацце. Супрацоўнікі аддзела бібліятэчнага маркетынгу Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы стварылі ў гонар юбіляра відэа "Купала ў творчасці пісьменнікаў Лідчыны", з якім можна ў вольным доступе пазнаёміцца на youtube-канале ўстановы. На геаграфічнай карце Беларусі мноства мясцін, якія сведчаць аб размаху і інтэнсіўнасці творчых і жыццёвых сувязей песняра са сваім народам. Асоба класіка беларускай літаратуры заўсёды была прыцягальнай для майстроў слова. Амаль у кожнага паэта Лідчыны ёсць верш, а то і не адзін, прысвечаны народнаму песняру.

Асоба Янкі Купалы знаёмая кожнаму беларусу, творчасць аўтара ідзе па жыцці з кожным з нас з малых гадоў. Гэта невычэрпная крыніца духоўнай сілы нашага народа. Са школьнай парты мы ведаем яго вершы, яны натхнялі многіх пісьменнікаў. А спектаклі па яго творах ідуць у тэатрах і сёння. Упэўнены, што пройдуць стагоддзі, а імя Янкі Купалы будзе жыць у сэрцах і ў памяці пакаленняў беларусаў. Любіце роднае слова, любіце родную зямлю і свой край, які даў вам жыццё.

*Бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"*
***Кацярына Сандакова.***



№ 28 13 ЛІПЕНЯ 2022 г.
наша СЛОВА.pdf

# Лідчына матэматычная

***Першыя лідскія абітурыенты-стабальнікі распавялі, як ім удалося дасягнуць поспеху на ЦТ***

Бліскуча прайсці ЦТ і набраць максімальную колькасць балаў атрымоўваецца далёка не ў кожнага абітурыента, таму не дзіўна, што стабальнікі заўсёды выклікаюць непадробную цікавасць.

На сённяшні дзень маюцца вынікі цэнтралізаванага тэставання па навучальных прадметах, якія здавалі ў ліку першых. Цікава, што грамадазнаўства на 100 балаў у краіне здалі 4 выпускнікі, рускую мову - 43. Колькасць чалавек, якія набралі вышэйшы вынік па беларускай мове - 67. Заўважым, што супер-вынік, і не адзін, штогод прысутнічае ў скарбонцы выпускнікоў Лідчыны.

**Настасся Більдзь - двойчы стабальніца**



Як ужо паведамлялася, у ліку стабальнікаў па беларускай мове ёсць і лідзянка. Гэта выпускніца сярэдняй школы №8 **Настасся Більдзь**. Атрымаць 100 балаў па гэтым прадмеце было для Насці вялікай нечаканасцю. Бо дагэтуль таленавітая вучаніца паказвала выдатныя веды ў дакладных навуках. Так, у 9-м класе, на абласным этапе рэспубліканскай алімпіяды па навучальных прадметах Насця заваявала дыплом трэцяй ступені па фізіцы. Праз год заняла другое месца ў вобласці і трэцяе - на рэспубліцы па матэматыцы, і стала другой па фінансавай пісьменнасці сярод юных знаўцаў Гарадзеншчыны.

Бліскучы поспех у цэнтралізаваным тэставанні па беларускай мове пацешыў не толькі саму абітурыентку, якая плануе паступленне ў БДУІР, але і яе бацькоў. Застаецца дадаць, што веды, прадэманстраваныя лідзянкай у ЦТ - вынік карпатлівай працы: на працягу двух гадоў Настасся дадаткова наведвала факультатыўныя заняткі пад кіраўніцтвам школьнага настаўніка і класнага кіраўніка **Наталлі Яцкевіч**.

Поспех адоранай вучаніцы па беларускай мове - гэта яшчэ не ўсе дасягненні Насці. Неўзабаве сталі вядомыя вынікі ЦТ па матэматыцы. У ліку стабальнікаў ізноў лідзянка, і гэта зноў... Настасся Більдзь! Трэба сказаць, што атрымаць максімальны вынік па ЦТ двойчы да гэтага ў Лідскім раёне яшчэ нікому не ўдавалася, а выкладала матэматыку Насці настаўніца **Жана Бурнос**.

**Яшчэ дзве "сотні" па матэматыцы**

Як стала вядома далей, цэнтралізаванае тэставанне па матэматыцы на 100 балаў у Беларусі напісалі 105 абітурыентаў. Заўважым, што ў іх ліку - выпускніца лідскай сярэдняй школы № 9 **Эвяліна Тарашчык** і выпускніца гімназіі №1 горада Ліды **Аляксандра Рудовіч**.



ЦТ па рускай мове **Эвяліна** здала на 83 балы, аднак, у тым, што набярэ найвышэйшы бал па матэматыцы, дзяўчына была проста ўпэўнена: задачы, якія трапілі падчас выпрабавання, ёй здаліся нескладанымі. А ўсё дзякуючы таму, пераканана лідзянка, што ў свой час ёй трапіўся выдатны настаўнік - **Таццяна Кавалёва**, якая і прышчапіла сваёй вучаніцы любоў да прадмета. У выніку, апошнія гадоў пяць вучобы Эвяліна актыўна ўдзельнічала ў алімпіядным руху, у раённых этапах якога неаднаразова займала прызавыя месцы.



**Аляксандра Рудовіч** перакананa: велізарная доля поспеху ў здачы ЦТ належыць яе настаўніку, Выдатніку адукацыі Рэспублікі Беларусь **Віктару Даўляшэвічу**.

Менавіта таму адным з першых, з кім абітурыентка паспяшалася падзяліцца радаснай навіной па тэлефоне, быў педагог. Максімальнаму выніку сваёй вучаніцы Віктар Казіміравіч таксама быў вельмі рады, як, зрэшты, і 100 балам двух іншых лідзянак, якія таксама як і Аляксандра наведвалі гарадскую алімпіядную школу, што працавала пры гімназіі пад яго кіраўніцтвам.

Застаецца дадаць, што ўзмоцнена рыхтуючыся да цэнтралізаванага тэставання, Аляксандра імкнулася раўнамерна размяркоўваць нагрузку: хоць і шмат часу праводзіла за падручнікамі, аднак і пра адпачынак не забывала, дазваляючы сабе штодзённыя шпацыры на свежым паветры. А вось з выбарам вышэйшай навучальнай установы дзяўчына пакуль яшчэ не вызначылася, у прыярытэце ў абітурыенткі - Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

***Лілея Лапшына.***





# У Віцебску асвяцілі новы касцёл

Касцёл святога Ігнацыя Лаёлы пабудаваны ў віцебскім мікрараёне Білева, паведамляюць "Народныя навіны Віцебска".

Гэта ўжо чацвёрты каталіцкі храм, які з'явіўся ў горадзе за час незалежнасці Беларусі.

Першым, у 2009 годзе, асвяцілі касцёл Езуса Міласэрнага, куды перанеслі віцебскую катэдру. У 2013-м кансэкравалі касцёл Святога Духа (перароблены з недабудаванага басейна), а ў 2017-м - касцёл святога Антонія (пераароблены з былога Дома культуры).





Будынак новага віцебскага касцёла мала нагадвае класічную беларускую сакральную архітэктуру - ён цалкам складаецца з паралелепіпедаў. Фрэскі на алтарнай сцяне спалучаюць класічны сюжэт з Тайнай вячэрай з выявамі нашых сучаснікаў - ад Дыега Марадоны да журналістаў. Праўда, падобнага стылю фрэскі, выкананыя тым жа мастаком, знаходзяцца і ў касцёле святога Антонія.

*"Народныя навіны Віцебска".*

*Навіны Германіі*

# Ці загавораць у нямецкіх ведамствах па-ангельску




Свабодныя дэмакраты (СВДП) выступілі з прапановай увесці другую мову для зносін ва ўстановах і ведамствах - ангельскую. Гэты крок дапаможа замежным спецыялістам пераадолець моўны бар'ер і атрымаць хуткі доступ да нямецкага рынку працы, лічыць міністр адукацыі Бетына Штарк-Ватцынгер (Bettina Stark-Watzinger).

Вядома забяспечыць вольнае валоданне ангельскай з боку ўсіх службоўцаў і дзяржслужбоўцаў хуткім часам не атрымаецца. Але ў будучыні двухмоўе неабходна.

- Германія - іміграцыйная краіна, - падкрэсліла Штарк-Ватцынгер.

На фоне недахопу персаналу ў многіх сферах эканомікі, СВДП шукае шляхі для прыцягнення кваліфікаваных працаўнікоў. Адным з інструментаў палітыкі называюць увядзенне ангельскай мовы ў якасці другой афіцыйнай мовы ў міністэрствах і ведамствах, што павінна палегчыць камунікацыю з уладамі і скараціць бюракратычныя перашкоды. Спецыялісты, якія толькі вывучаюць нямецкую, але якія валодаюць ангельскай, павінны быць у стане вырашаць усе надзённыя праблемы.

Шматмоўе асабліва неабходна ў сферы праграмавання і лічбавых паслуг, заявіла Катарына Нівендзіял, упаўнаважаная па пытаннях інтэграцыі Берліна. Каб эфектыўна вырашаць задачы прыцягнення персаналу з-за мяжы, неабходны і шырокія тэхнічныя інвестыцыі, падкрэслівае палітык.

*Наш кар.*





# Памёр Іван Грос

7 ліпеня памёр ветэран беларускага нацыянальнага руху ў Лідзе **Іван Грос**.

Падпалкоўніку ў адстаўцы Івану Уладзіміравічу Гросу было 85 гадоў. Жыў у вёсцы Ёдкі Лідскага раёна.

У пачатку 90-х Іван Грос быў адным з заснавальнікаў БЗВ, узначальваў Лідскую арганізацыю БЗВ. Удзельнічаў у менскіх мітынгах і шэсцях, у лідскіх пікетах. Быў перакананым прыхільнікам поўнай незалежнасці Беларусі, стварэння моцнага беларускага войска.

Спадчынны сацыял-дэмакрат, сябар БСДП. Яго бацька быў сябрам БСРГ.

Нарадзіўся ў вёсцы (комплекс хутароў) Істакі Лідскага раёна ў 1937 годзе. Гэты рэгіён: Дроздава, Ганчары, Істакі, Баравічы, Масявічы і інш. быў вядомы сваёй прабеларускай арыентацыяй у часы Польшчы. Тут дзейнічалі БСДГ, ТБШ.

Пасля вайны скончыў школу, працаваў шафёрам у калгасе, служыў у Савецкай Арміі, закончыў вайсковае вучылішча, прайшоў Афганістан, служыў у ГДР. Закончыў службу камандзірам абатз авіяцыйнага палка.

Пахавалі Івана Гроса 9 ліпеня на могілках вёскі Ганчары Лідскага раёна побач з магілай жонкі.

Пахаванне праходзіла з вайсковым ушанаваннем. Падчас апускання труны ў магілу прагучаў салют з трох залпаў.

Засталіся два дарослыя сыны, унукі.

Светлая памяць адданаму сыну Беларусі!





*Марш 21 сакавіка 1993 года ў Менску. Злева направа – Іван Грос, Алесь Кулеш, Мікола Статкевіч, Валер Костка, Мікалай Жураўкін, Мікалай Бірукоў*





# Героі беларускага фэнтазі вяртаюцца

Летнія вакацыі - час прыгод. Але прыгоды можна перажыць і з героямі на старонках добрай кніжкі. Адмыслова да летніх вакацый выдавецтва "Чатыры чвэрці" выпусціла працяг прыгодніцкага фэнтазі на падставе беларускага фальклору "Рыцар Янка і каралеўна Мілана. Каралеўству патрэбны героі". Аўтар - Алег Грушэцкі. Героі рамана - персанажы з беларускай міфалогіі - магутны Цмок, волат Вярнігара, вужалкі, гарцукі, ваўкалакі, багнік, лясун… Вас спаткаюць як старыя, так і новыя героі. А яшчэ шмат захапляльных гісторый, удзел у сапраўдным рыцарскім турніры і бітва за волю і каралеўства.

Коратка пра сюжэт кнігі.

*Да канца летніх вакацый у дзедавай вёсцы застаецца зусім нядоўга, але, перш чым вярнуцца дадому, юнакі Янка і Мілана жадаюць яшчэ раз наведаць таямнічае каралеўства Сварга. Толькі за гэты час адбыліся ў ім жахлівыя змены - Цмок быў забіты, Вярнігара знік, а каралеўства захапіў яшчэ больш магутны і злы вядзьмак, якім рухае толькі помста. Юныя героі ізноў выпраўляюцца ў небяспечнае падарожжа праз гіблыя мясціны - Чорны Лес ды Паганае Балота. І задача перад імі зараз стаіць больш складаная. Але найперш давядзецца адшукаць волата Вярнігару і ўратаваць з вязніцы караля Мацея, якога змогуць вызваліць толькі таямнічыя веды прыгажунь-вужалак, якія, апроч усяго, яшчэ пакажуць усім свой ваяўнічы характар на полі бітвы.*

*Юнакам належыць ізноў узначаліць барацьбу, толькі цяпер змагацца давядзецца куды з больш страшным і магутным злом, здольным вынішчыць усё на сваім шляху. Падчас прыгод юныя героі нават у такіх цяжкіх умовах завядуць сябе новых сяброў і спазнаюць прыгожае пачуццё закаханасці. А іх сябры, мужныя рыцары і ваяры, прымуць удзел у сапраўдных рыцарскіх спаборніцтвах. У цяжкай барацьбе за волю юнакам дапамогуць як старыя, так і новыя знаёмыя - брат Вярнігары асілак Вярнідуб, сёстры спрытных гарцукоў, здольныя страляць маланкамі, і іншыя міфічныя істоты. Янка і Мілана прымуць удзел у бітвах яшчэ больш гучных і слаўных. Але ці дадуць рады юныя героі тым выпрабаванням - залежыць толькі ад іх саміх, ад іх смеласці, мудрасці, рашучасці і адвагі.*

Першая частка рамана, "Рыцар Янка і каралеўна Мілана. Таямнічае каралеўства", пабачыла свет у 2021










годзе і карысталася пэўнай папулярнасцю. Новая кніга зноў разлічана на дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту і з'явіцца выдатным падарункам дзіцяці, каб цікава і з карысцю правесці час на школьных летніх вакацыях.

Ілюстрацыі да кнігі зрабіў таленавіты мастак Віктар Козел, які працаваў і над першай часткай. Набыць кнігу "Рыцар Янка і каралеўна Мілана. Каралеўству патрэбны героі" можна непасрэдна ў выдавецтве "Чатыры чвэрці" альбо ў кнігарні "Акадэмічная кніга". Ёсць магчымасць замовіць на Biblio.by і OZ.by, таксама хутка можна будзе пытаць твор у бібліятэках.

***Пра аўтара:***

*Аўтар кнігі - Алег Грушэцкі. Бацька траіх дзяцей, пісьменнік, журналіст, публіцыст, перакладчык. Аўтар літаратуразнаўчых і гістарычных артыкулаў як у беларускіх, так і ў замежных навуковых выданнях. Піша вершы, казкі і фэнтазі на беларускай мове. Лаўрэат шэрагу творчых прэмій. У мінулым - адзін з арганізатараў скаўцкага руху на Беларусі, удзельнік гістарычна-культурнага таварыства "Талака", першага беларускамоўнага летніка "Грунвальд". Нашчадак старажытнага шляхецкага роду.*

***Наш кар.***

# Музей вузкакалеек ствараецца пад Лідай



За 12 км ад Ліды, на базе торфабрыкетнага завода "Дзітва", гістарычна-культурная ўстанова "Нязведаная вузкакалейка" стварае першы ў Беларусі музей вузкакалейнай тэхнікі.

Улетку 2021 гады ідэя аднаўлення вузкакалеек перамагла ў конкурсе сацыяльных праектаў Social Weekend і атрымала грант 10 000 беларускіх рублёў. Гэта стала пачаткам: на грошы быў набыты і адрэстаўраваны першы вагон.

Цяпер установа займаецца пошукам, дастаўкай на "Дзітву" і аднаўленнем рэдкай вузкакалейнай тэхнікі. На сённяшні дзень ва ўласнасці ў праекта - два крытыя грузавыя вагоны, нямецкі 1948 года і савецкі 1968 года, мотадрэзіна з прычэпам, а таксама даваенныя ваганеткі. Музей у Дзітве - фактычна дзейсная станцыя вузкакалейкі.

- Вузкакалейкі - утульныя, маленькія, такая хатняя чыгунка, па памеры супастаўная з чалавекам. Гэта досыць вялікі і цікавы пласт нашай гісторыі. Калісьці, падчас Расійскай імперыі, з'явіліся прыватныя пасажырскія вузкакалейкі, падчас Першай сусветнай вайны іх сотнямі будавалі для фронта, палова Палесся была ахоплена лесавознымі вузкакалейкамі, - распавёў заснавальнік праекта "Нязведаная вузкакалейка" Арцём Слізкі.

Ён лічыць торфабрыкетны завод у Дзітве адным з лепшых, а іх вузкакалейную дарогу - самай дагледжанай у краіне.

Ужо з 20 гадоў над Лідчынай вітае ідэя зрабіць турыстычны маршрут па лідскіх вузкакалейках. Акрамя вузкакалейкі на Дзітву працуе вузкакалейка на Першамайскім радовішчы торфу.

Трэба дадаць, што перад вайной не толькі на Палессі, а і на Лідчыне сетка вузкакалеек была даволі густая. Ежы Путрамант апісвае свае паездкі па вузкакалейцы з Іўя ў Ліду, з Наваельні ў Навагрудак. Была вузкакалейка з Бярозаўкі ў Сялец. А пра славутае абрабаванне лоркі (лорка - чыгуначная платформа, якую цягнуў конь) на “міжнароднай трасе Васілішкі-Скрыбаўцы” пісалі буйныя еўрапейскія газеты. Рабунак здзейсніў Сяргей Пясецкі з кампаньёнам. Расказаць турыстам будзе пра што.

***Наш кар.***





*Генерал Люцыян Жалігоўскі*

# Вайна ў 1920 годзе*

## *Успаміны і разважанні*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

* * *

Дзякуючы так карыкатурна спечанай ідэі абароннай лініі, паўстаў цэлы шэраг фальшывых тактычных памкненняў, як абсталяванне той лініі, арганізацыя артылерыйскай сістэмы, размяшчэнне рэзерваў, неабсталяванне другой лініі і іншае.

Слушныя заўвагі на гэтую тэму мы знайходзім у пісьме камандуючага фронту генерала Галера ад 2 жніўня:

*"Першая лінія ў тым раёне (адрэзак 11-й дывізіі пяхоты) незакончаная, яе траса ў многіх месцах заганная. Лінія дроту не дае магчымасці флангавага агню. Работы на той лініі выконвае выключна толькі нядаўна з фармацыі папаўнення прыбылы жаўнер, які павінен быць абучаны і падрыхтаваны да бою і службы ў акопах. На ўсёй лініі я не застаў ні аднаго цывільнага ані вайсковага інжынера".*

Трэба тут дадаць да заўвагі камандуючага фронту, што ад гэтага апісання да 13 жніўня нічога або амаль нічога на той лініі не змянілася.

Цяжка зразумець, чаму камандуючы фронту, бачачы, як выглядае тая першая лінія, і здаючы сабе справу з таго, што ў такі кароткі адрэзак часу не шмат здолеем у ёй змяніць, нягледзячы на гэта забараняў узмацняць другую лінію з-за небяспекі заўчаснага адступлення на яе. Задума гэтая моцна зашкодзіла і так кепска ўфартыфікаванай пазіцыі.

Ідэя пабудовы гэтай лініі паўстала праўдападобна адтуль, што хацелі абараніць Варшаву ад агню дальнабойнай расійскай артылерыі. Паколькі той артылерыі не было, прычына яе стварэння не была істотнай.

Цяжка сёння спраўдзіць, чыя гэта віна і хто быў аўтарам няшчаснага праекту. Дзякуючы ёй, як убачым, мы амаль змарнавалі 11-ю дывізію пяхоты і непатрэбна выкарысталі 1-ю літоўска-беларускую дывізію. Дзякуючы ёй, мы не выкарысталі агню нашай артылерыі, і дзякуючы ёй, мы мелі непадрыхтаваную другую абаронную лінію. Фатальная тая задумка давяла толькі да таго, што мы не мелі ані сродкаў, ані часу, ані спецыяльных сіл, каб гэтую лінію адпаведна разбудаваць.

Належыць пашкадаваць, што капітальных памылак, якіх у той час нарабілі з аказіі тых фартыфікацыйных работ, не абгаворваюць сёння больш шырока. Была б гэта цікавая тэма не толькі для гісторыі, але і для нашай вайсковай інжынерыі.

У працы капітана Валігоры "Фартыфікацыя прадмесця Варшавы" знаходзім цікавыя звесткі пра тагачасны стан фартыфікацыі і тэхнічных сродкаў. Аказваецца, што ў той час не хапала калючага дроту і сапёрнага начыння, што не было прафесійных інжынераў, ані дастатковай колькасці работнікаў.

У такіх варунках занядбалі мэтава выбудаваную абаронную лінію на карысць шкоднай фікцыі. Новая лінія была выбрана нягледзячы на тое, што загад міністра вайсковых спраў выразна ўказваў на нямецкую, і нягледзячы на тое, што думку гэтую падзялялі французы. (Рапарт палкоўніка Французскай місіі Банцільёна.)

Таму стварэнне той лініі кладзецца або на фартыфікацыйны камітэт пад камандаваннем генерала Міхаэліса, або на губернатара Варшавы.

Дыслакацыя на варшаўскім плацдарме была наступная:

Ад Карчова да Акунёва - 15-я дывізія пяхоты, ад Акунёва да Лесніковізны - 8-я дывізія пяхоты, ад Лесніковізны да Буга - 11-я дывізія пяхоты. VII рэзервовая брыгада ў Зэгжы.

Цяжка зараз растлумачыць запаўненне войскамі ўсяго прадмесця. Калі на правым крыле 15-я дывізія займае 15 кіламетраў, на кірунку мала небяспечным, бо паўднёвым, а адрэзак 87-й дывізіі мае ледзве 5 кіламетраў, то аддане 11-й дывізі, маральна больш слабой, свежа папоўненай, з новым камандаваннем 32-х кіламятровай прасторы, у месцы, праз якое праўдападобна пройдзе вось непрыяцельскага наступлення (шаша Беласток - Варшава), становіцца зусім незразумелым.

Можна было б гэта патлумачыць практыкай Сусветнай вайны, у якой слабое ўкамплектаванне першай лініі, а моцнае другой аказвалася вельмі карысным. Аднак жа ў нас другая лінія зусім не была ўкамплектавана. Праўда, што ў Марках за 10 кіламетраў за фронтам знаходзіўся рэзерв 1-й арміі (1-я літоўска-беларуская дывізія), але такая дыслакацыя загадзя ўжо ўтрымоўвала ў сабе небяспеку прарыву фронту 11-й дывізіі і прызначэнне яе на цяжкія страты.

---

* Пераклад Станіслава Судніка паводле выдання 1930 года.



беларускага фронту ваяваў у складзе 4-й арміі і толькі пад канец радзымінскай бітвы быў аддадзены дывізіі..

Быў гэта першы адпачынак пасля пераходу каля 700 кіламетраў ад 4 ліпеня. Дывізія была моцна змучана і абадраная, шмат шарагоўцаў было без абутку, запаўненне штатаў было нізкае, аднак дух панаваў дасканалы.

Брыгадамі камандавалі: XIX - палкоўнік Малахоўскі, прызначаны ўжо папярэдне на камандзіра групы ў Зэгжы, XX - палкоўнік Францішак Сікорскі. Камандзірам 28-га палка быў палкоўнік Томе, якога пазней змяніў маёр Сабяшчак. 29-га - маёр Вальтар, 30-га - падпалкоўнік Яцынік. Начальнікам штаба дывізіі быў падпалкоўнік Т. Грабоўскі.

Адразу пачалася праца па прывядзенні ў парадак узбраення, абмундзіравання і абутку. Варшаўская інтэнтэндантура з энергіяй і спешна даставіла экіпіроўку. Наогул цэнтральныя ўлады працавалі вельмі напружана, і дывізія ні ў чым не адчувала недахопу.

Баявы штат дывізіі выглядаў наступным чынам:

28-ты полк - 44 афіцэры, 1735 шарагоўцаў;

29-ты полк - 25 афіцэраў, 1432 шарагоўцы;

30-ты полк - 35 афіцэраў, 768 шарагоўцаў.

Артылерыя: 14 афіцэраў, 350 шарагоўцаў.

Разам баявы штат дывізіі ў Яблонне дасягаў 118 афіцэраў і 4285 шарагоўцаў.




*План умацаванняў прадмесця Варшавы*

* * *

Як я ўжо ўспамінаў, 11 жніўня вечарам стаяла мая дывізія ў Яблонне. Дывізійная артылерыя скіравана на пазіцыі ўздоўж ракі Буга-Нарвы, на яе левым беразе. Агнёва злучала яна Зэгжа з Модлінам. Пры дывізіі засталіся толькі дзве батарэі.

Штаб дывізіі размясціўся ў адным з баракаў у Яблонне. Палкі 28-ы і 29-ы разам са штабам XIX брыгады стаялі таксама ў Яблонне, а 30-ы полк і камандаванне XX брыгады - у блізкай вёсцы Хатамове. 31-ы полк, як ужо гаварылася, паводле загаду камандавання літоўска-

12-га на фронце панавала ціша. Вечарам я накіраваўся ў Варшаву. Было цікава, як выглядае горад у такую важную для яго хвілю.

Варшава падалася мне вельмі сур'ёзнай. Панавала як бы ўрачыстая сабранасць. Паблізу Генеральнага штаба сустрэў аддзел пажылых цывільных паноў, якія спраўна маршыравалі пад каманду аднаго з іх. З прыемнасцю глядзеў на гэтых людзей.

Мы ведалі пра тое, што шмат жыхароў сталіцы выехала за мяжу, каб у спакоі і бяспецы перастрываць найцяжэйшыя часы, ведалі аднак таксама, што тысячы дабраахвотнікаў усякіх станаў гарнулася пад зброю, а адважныя жанчыны, патрыятычныя полькі, горача агітуючы ў Варшаве, абвяшчаюць усюды лозунг: "На фронт" і звяртаюцца да амбіцый мужчын нават у кавярнях і рэстаранах.




Stationўчае, падмацоўваючае ўражанне на войска аказвалі даходзіўшыя з Варшавы весткі пра энергію і напружанасць ураду пад кіраўніцтвам начальніка дзяржавы маршала Пілсудскага. Радасцю і палёгкай напаўняла сэрцы вестка, што генерал Саснкоўскі адмовіўся эвакуяваць міністэрства вайны. Зразумела, што сталіца будзе бараніцца любой цаной.

Прыкрым дысанансам падаваліся ў гэты час атакі часткі прэсы на Вярхоўнага галоўнакамандуючага, у найсур'ёзнейшую хвілю, калі яго аўтарытэт так неабходны быў для перамогі. Прэса гэтая - несумненна, без злой волі - працавала хутчэй на карысць непрыяцеля, чым на нашую.

На Празе чутны былі далёкія адгалоскі артылерыі з усходу. Я вярнуўся ў Яблонну.

13-га ўжо ад світання разлеглася моцная канонада ў ваколіцах Радзыміна. У дывізію прыбыў маршавы батальён. Правёўшы яго агляд, прызначыў яго ў 29 полк пяхоты, а следам арганізаваў для яго тактычныя вучэнні на блізкіх узгорках. Афіцэры і шарагоўцы гэтага батальёна выглядалі добра і маглі цалкам ацэньваць сур'ёзнасць сітуацыі. Было там, аднак, шмат шарагоўцаў, якія ні разу ў жыцці не стралялі.

13-га вечарам стала відавочным тое, чаго на маю думку, належала чакаць. Пасля цяжкіх баёў 46-ы полк пяхоты з 11-й дывізіі быў адкінуты з першай лініі; непрыяцель заняў Радзымін.

Я думаў тады вельмі шмат пра псіхалогію адступлення. Вісела яна бясспрэчна над усёй арміяй. Шасцітыднёвае адступленне выпрацавала як бы хваравітае пачуццё неабходнасці адыходу. Засынаючы і прачынаючыся жаўнер думаў пра тое, што мае адступаць. Сталася гэта ў пэўнай ступені хваробай і як бы ўвайшло ў кроў. На працягу тых доўгіх тыдняў як пасля паразы, так і пасля перамогі наступаў адход. Не было гэта баязлівасцю, адсутнасцю мужнасці або нявер'ем ва ўласныя сілы, а грознай прывычкай, якая дэзарыентавала думкі. Гэтага псіхозу я баяўся найболей. Дзе і калі, у якіх умовах будзе ён пераламаны?

Амаль што замацавалася думка, што ў арміях паўночнага фронту панаваў упадак духу, што былі яны хворыя маральна. Гэты погляд не адпавядаў рэчаіснасці. Адступленне стала нечым аўтаматычным, прывычкай, але маральны стан афіцэраў і жаўнераў быў добры.

Мы бачылі маральны ўпадак у Мукдэнскай бітве. Бачылі ўпадак у аўстрыйскай арміі у Сусветнай вайне. Было гэта нешта зусім іншае, чым у нас. Псіхіка нашага афіцэра і жаўнера была здаровая, а гэтае вялікае адступленне не змагло іх ні здэмаралізаваць, ні расчараваць. Канешне былі асобныя выпадкі панікі, асабліва ў тылах, там, дзе яны звыкла пашыраюцца. Не было гэтага ў лініі. Наш жаўнер, як заўсёды, жартаваў з усяго, зносіў усялякія недахопы, меў вялікі давер да афіцэраў, быў паслушны і лёгка арыентаваўся ў сітуацыі. Меў адзін недахоп: кепска страляў. Ніколі не было часу, каб яго гэтаму навучыць. Не меў даверу да карабіна і не бачыў у ім свайго прыяцеля. Карабін падаваўся яму хутчэй цяжарам, які трэба насіць. Недахоп той адбіваўся на кожнай аперацыі, а ўжо асабліва ў баях з конніцай даваўся ў знакі.

Беручы тэарэтычна, найбольш стомленымі павінны былі быць 8-я і 10-я дывізіі, бо зрабілі най-даўжэйшы адход, ад Германавічаў да Варшавы каля 700 кіламетраў, і гэта адходзячы ў кірунку найбольшага націску непрыяцеля. Аднак жа, нягледзячы на гэта, адзін дзень адпачынку, на працягу якога людзі маглі выспацца, вярнуў добры настрой, здароўе і надзею на перамогу.

13-га ўдалося нашаму штабу ў Варшаве расшыфраваць радыёдэпешу расійскага камандавання.

Быў гэта загад камандавання 16-й арміі. Перадалі яго адразу да ведама зацікаўленых камандзіраў. Загад той гучаў так:

*“Са штаба 16-ай арміі ў штабы падначаленых дывізій.*

*13-га. VIII. 1920.*

*Аператыўны загад да войскаў 16-ай арміі.*

*Арміі заходняга фронту пасля баёў занялі Млаву - Цеханоў - Пултуск - Вышкаў.*

*21-й дывізіі загадана 13.VIII ударыць на непрыяцеля, які дзейнічае насупраць правага крыла нашай арміі з лініі Зэгжа - Залубіцы ў кірунку на Прагу.*

*Загадваю дывізіям распачаць наступленне і вечарам 14. VIII. 1920 авалодаць наступнымі раёнамі:*

*27-я дывізія - Лайск - станцыя Яблонна - Непарэнт;*

*2-я дывізія - Радзымін - Станіслаў - Пустэльнік (выключна) - Геленаў;*

*17-я дывізія - Пустэльнік - Маркі - Тураў - Валомін;*

*10-я дывізія - Макралок - Вавер - Яраслаў - Акунёў;*

*8-я дывізія - Карчоў - Асецк - Кольбель.*

*2) Дывізійныя выведкі да гэтага часу павінны дабрацца аж да лініі ракі Віслы ў межах дывізійных адрэзкаў, вызначаных у пункце першым маёй дырэктывы № 505.*

*3) Камандзір 27 дывізіі ўзаемадзейнічае з 21 дывізіяй пры яе ўдарах, скіраваных на Прагу.*

*4) Камандзір 10-й дывізіі павінен мець на ўвазе, што ў залежнасці ад акалічнасцяў яго дывізія можа мець галоўны кірунак на Прагу, што вымагае канцэнтрацыі адной брыгады ў раёне Акунёва.*

*5) Пра атрыманне гэтага адразу далажыць.*

*Камандуючы 16-ай арміі Салагуб.*

*Член рэўваенсавета Петакоў.*

*Кам. шт. арм. Баторскі”.*

Як вынікае з гэтага загаду на адрэзак, заняты 11-й дывізіяй пяхоты скіроўваліся 27-я, 2-я і частка 17-ай дывізіі пяхоты. Апрача гэтага тут чакалася 21-я дывізія пяхоты з 3-й арміі. Абазначала гэта, што ў гэтым кірунку камандуючы 16-й арміі планаваў вырашальны ўдар.

*(Працяг у наступным нумары.)*





# ІНТЭРАКТЫЎНАЯ ПЛЯЦОЎКА "МІР ТАБЕ, КРАЙ ПАД НЕБАМ БУСЛІНЫМ"




3 ліпеня ў Лідзе адбыліся святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя галоўнаму дзяржаўнаму святу, Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы ў гэты дзень ладзіла інтэрактыўную пляцоўку "Мір табе, край пад небам буслінакым". Зазірнуўшы сюды, можна было "прадэгуставаць" навінкі беларускай літаратуры, дзякуючы кніжнай выставе "Мая Беларусь: сучасныя пісьменнікі".

З велізарным задавальненнем госці прымалі ўдзел у краязнаўчых віктарынах "Ведай нашых!", "Адгадай беларускую загадку", "Народныя святы і абрады" і "Героі міфаў і паданняў Беларусі", дзе неабходна было праявіць усю сваю эрудыцыю і знаходлівасць.

Для гасцей мерапрыемства была разгорнута маляўнічая фотазона ў выглядзе кнігі вышынёй звыш аднаго метра. Яна мела назву "Кніга - Вялікая каштоўнасць". На працягу дня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы працаваў камунікатыўны стэнд "Пазнай Беларусь" і майстар-класы "Мастацтва пісьма" і "Ад глінянай балонкі да друкаванай старонкі".

Наша пляцоўка не дала засумаваць нікому: ні дарослым, ні дзецям. Тут, ля Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы, людзі атрымалі масу станоўчых эмоцый, размаўлялі, дзяліліся ўражаннямі ад свята.

*Д. Марцінкевіч.*

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru

Газета падпісана да друку 11.07.2022 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*